*Ветэран вулічнай дэмакратыі атрымаў дзесяць сутак. Камуністы рэкламуюць СВАБОДУ (стар. 2) Смерць забастоўшчыка (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 41.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

4 чэрвеня 1996 г. № 40 Кошт свабодны

## Спецназ адвёў душу ў самым людным месцы беларускай сталіцы

**У чацвер 30 траўня ў Мінску ўлады ўчынілі сапраўдную паліцэйскую расправу. Было схоплена больш за 100 чалавек, на 84-х з іх складзеныя пратаколы, дакладная лічба асуджаных пакуль невядомая. Паводле нашай інфармацыі, Мінюст рыхтуе забарону Народнага Фронту. Мінская пракуратура ўжо арыштавала банкаўскі рахунак БНФ.**

Акцыя пратэсту супраць утрымання ў турме сямі ўкраінскіх і двух беларускіх палітзняволеных (С.Адамовіча і А.Рамашэўскага) пачалася мірна. А 17-й гадзіне ў скверы насупраць будынка адміністрацыі прэзідэнта сабралася прыблізна тысяча чалавек (пераважна моладзь). Пачалі збіраць подпісы пад зваротамі за вызваленне арыштаваных.

Хвілін праз дваццаць наляцеў спецназ і з дапамогай дубінак і "Черемухи" выцесніў людзей са сквера на праспект Скарыны. Моладзь, а за ёю і ўсе астатнія пікетчыкі (а таксама выпадковая публіка), пайшлі па тратуары ў бок плошчы Незалежнасці. На падыходзе да паштамта дэманстрантаў сустрэлі міліцэйскія шэрагі і пагналі «ўдзельнікаў несанкцыянаванага мерапрыемства» па праспекту назад. Але каля Нацыянальнага банка шлях для адступлення быў перакрыты — тут напагатове ўжо стаяў спецназ. Некалькі сотняў чалавек (у т.л.выпадковыя прахожыя) апынуліся ў пастцы. Пачалася сапраўдная паліцэйская расправа. Спецназ і міліцыя малацілі дубінкамі і маладых, і старых. Калі нехта падаў на асфальт альбо спрабаваў абараняцца — хапалі і закідвалі ў «варанкі». Вырываючыся з пасткі, людзі пачалі ўцякаць на другі бок праспекта (да ГУМа).

Побач са мной, прыціснуўшыся да сцяны Нацбанка, стаялі некалькі выпадковых прахожых. Я спытаў, што яны думаюць пра ўсё гэта.

**Дашкевіч Людміла Раманаўна, 55 гадоў:** «Я не ведаю, што тут на самой справе адбылося, але так жорстка збіваць людзей — гэта жахліва...»

**Аляксандр, 33 гады:** «Я цалкам падтрымліваю людзей, якія выйшлі на дэманстрацыю. Цяпер у нашай краіне «полнейший беспредел». І калі спатрэбіцца, я буду змагацца за сябе і сваіх дзяцей».

**Сяргей Мацко:** «Мы з жонкай праходзілі побач, калі на людзей наляцеў спецназ. Мы бачылі, як яны накінуліся на чатырох хлопцаў. Адзін з іх быў тут, відаць, выпадкова і стаў абурацца. Яго павалілі дубінкамі на асфальт; адзін мардаты спецназавец сеў яму на спіну, дастаў з кабуры пісталет і рукаяткай стукнуў хлопца ў патыліцу, той аж заліўся крывёю. Яго завалаклі ў машыну, а потым падбеглі два міліцыянты, паклалі на крывавую лужыну нешта падобнае на прамакатку — і на асфальце не засталося нават мокрай плямы».

Расправа над дэманстрантамі працягвалася амаль да васьмі гадзін вечара. Сярод сведкаў пабоішча былі таксама чатыры дэпутаты Вярхоўнага Савета — **Мечыслаў Грыб, Людміла Гразнова, Павел Данэйка і Васіль Хрол.**

*(Працяг на стар. 2)*





## Багданкевіч раіць не чакаць восені

**«Беларусь падышла да той рысы, калі распад эканомікі і фінансавае банкруцтва могуць стаць немінучымі,» — так лічыць лідэр Грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч.**

На мінулым тыдні ён правёў прэс-канферэнцыю, дзе паведаміў некаторыя сумныя лічбы пра стан беларускай эканомікі.

Па словах С.Багданкевіча, толькі за 1995 год колькасць стратных прадпрыемстваў павялічылася ў 4 разы. Нежыццяздольныя ў фінансавым плане 2.000 калгасаў і саўгасаў з агульнай колькасці 2.600, палова банкаў. За 4 месяцы 1996 г. вытворчасць валавога ўнутранага прадукту знізілася яшчэ на 2 %. Красавіцкая «стабільнасць» з'яўляецца падманам, паколькі 40 % прадукцыі не рэалізавана, а адпраўлена на склад. Прыбытковая частка бюджэту праваленая і не пакрывае выдаткаў. Дэфіцыт гандлёвага балансу склаў амаль 500 млн. долараў. Гэта больш, чым за ўвесь мінулы год. Валютныя рэзервы скончыліся. Лік афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных набліжаецца да 200 тысяч чалавек, а неафіцыйнае беспрацоўе як мінімум у 10 разоў вышэйшае. У абарачэнне выпушчана 2,5 трлн. рублёў нічым не забяспечаных грошай, г.зн. зноў запушчаны махавік інфляцыі.

С.Багданкевіч прапануе неадкладна, не чакаючы восені, пачаць парламенцкія слуханні з удзелам прэзідэнта аб эканамічнай сітуацыі ў краіне і шляхах выхаду з крызісу.

**Б.П.**

## Створана парламенцкая камісія

**31 траўня Вярхоўны Савет пачаў працу з абмеркавання драматычных падзей, што адбыліся ў чацвер на праспекце Скарыны ў Мінску.**

Спачатку ў «Розным» выступіў Мечыслаў Грыб, які параўнаў тое, што адбылося, з 37-ым годам. Ужо на самім паседжанні Анатоль Лябедзька прапанаваў стварыць парламенцкую камісію па ацэнцы падзей 26-га красавіка і 30-га траўня. *«Калі мы гэтага не зробім, то ў Канстытуцыю Беларусі замест словаў «унітарная дэмакратычная» трэба запісаць «паліцэйская аўтарытарная недэмакратычная дзяржава»,* — заявіў Лябедзька. Ідэю аб стварэнні адмысловай парламенцкай камісіі падтрымалі і камуністы, якія, безумоўна, маюць жаданне па-свойму «разабрацца» і «даць ацэнку» масавым акцыям.

За стварэнне камісіі прагаласавала 112 дэпутатаў. У аўторак, 4 чэрвеня, кожная фракцыя павінна прапанаваць туды сваіх прадстаўнікоў.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**



### Спадабалася...

**Прэзідэнцкая адміністрацыя паведаміла, што Аляксандр Лукашэнка правядзе ў Сочы яшчэ адзін тыдзень і вернецца ў Беларусь у наступны панядзелак (10 чэрвеня).**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Шлях за краты пачынаўся з ГУМа

**У расправе над дэманстрантамі асабліва вызначыліся гэтыя брытагаловыя малойцы (іх было прыблізна 25 — 30 чалавек), якія выхоплівалі з натоўпу каля ГУМа маладых людзей і запіхвалі іх у бакавыя дзверы універмага *(гл. здымак)*.**

Гэта была адна з міліцэйскіх «загатовак», якая сведчыць, што акцыя расправы была загадзя спланаваная. Рабілі гэта наступным чынам: брытагаловыя (апранутыя ў цывільнае) хапаюць людзей, закідваюць іх у дзверы ГУМа, там іх «прымаюць» амонаўцы з дубінкамі і цягнуць праз чорны ход у двор, дзе стаяць закратаваныя машыны. Звычайныя міліцыянты *(на здымку)* сцерагуць дзверы, чакаючы новую партыю.

Трэба аддаць належнае дэманстрантам: пабачыўшы, як у ГУМ закідваюць іх паплечнікаў, яны зламалі дзверы, але там нікога не было — затрыманых адразу адвозілі ў міліцэйскія пастарункі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

*P.S. Віншуем адміністрацыю ГУМа з паспяховым завяршэннем аперацыі! Але вы, шаноўныя, зрабілі памылку: згадзіўшыся супрацоўнічаць з «канторай», вы страчваеце тысячы пакупнікоў, бо, як нам здаецца, нармальныя людзі пасля гэтай інфармацыі наўрад ці захочуць рабіць пакупкі ў вашым універмагу, тым больш, што тое ж самае можна купіць у іншым месцы. Аднак будзем спадзявацца, што адміністрацыя прэзідэнта (куды вы можаце цяпер смела звяртацца), кампенсуе вам панесеныя страты. А мы свае грошы заплоцім іншым.*





# Смерць забастоўшчыка

*Больш за трыста чалавек прыйшло раніцай у пятніцу ў электрадэпо «Маскоўскае» мінскага метро, каб развітацца з памерлым Віктарам Іўлевым, былым машыністам, якога ў мінулым годзе звольнілі за ўдзел у страйку*



*На здымку: пахаванне Віктара Іўлева.*

Віктар пражыў усяго 36 гадоў. У метро ён уладкаваўся адзінаццаць год таму простым рамонтнікам, а быў звольнены машыністам высокага класа. Як адзначаюць калегі, Іўлеў не ўдзельнічаў у вядомай канферэнцыі машыністаў, на якой было вырашана баставаць. У лік забастоўшчыкаў ён трапіў выпадкова — проста быў у той самай змене, з якой усё пачалося. Але застаўшыся без працы, свядома і актыўна змагаўся супраць самавольства адміністрацыі метро і ўлады. Па словах Уладзіміра Макарчука, лідэра дэмакратычнага прафсаюза транспартнікаў, адміністрацыя некалькі разоў спрабавала весці з Іўлевым перамовы аб «сепаратным міры». Яму трэба было толькі напісаць заяву аб прыняцці на працу зноў. Аднак Віктар адмовіўся і працягваў разам з сябрамі змагацца за аднаўленне праз суд. Шлях гэты аказаўся цяжкім. Судовыя паседжанні па позве машыністаў да адміністрацыі метро шмат разоў адкладваліся па самых неверагодных прычынах. І дагэтуль у працэсе не пастаўлена кропка. Ішоў час, траціліся сілы, нервы... Першым, у каго не вытрымала здароўе, стаў Віктар Іўлеў. Нядаўна з ім здарыўся інсульт, потым раптоўна развілася запаленне мозга. 29 траўня Віктар Іўлеў памёр, так і не ачуняўшы пасля аперацыі.

«Калі мы не навучымся бараніць свае правы, будзем зноў і зноў хаваць сяброў», — казалі перад труной выступоўцы на жалобным мітынгу.

Усе выдаткі на пахаванне былога машыніста ўзяў на сябе Свабодны прафсаюз і дэмакратычны прафсаюз транспартнікаў. Яны ж збіраюцца падтрымліваць матэрыяльна яго ўдаву і двух дзетак. Ад грашовай дапамогі адміністрацыі метро сям'я нябожчыка адмовілася.

**Алесь ГРУДЗІЛОВІЧ**

## Ахвяры нацызму непакояцца пра свае дойчэмаркі

**У «Прыёрбанку» ахвярам нацызму, якія атрымалі кампенсацыю ад ураду ФРГ, рэкамендуюць прытрымаць сваю валюту дома.**

Як сказаў начальнік аддзела ўкладаў аднаго з філіялаў «Прыёрбанка» Сяргей Баранкевіч, *«нарматыўныя акты мяняюцца Нацбанкам літаральна кожны дзень. Невядома, што будзе далей, час неспакойны»*.

Нямецкі ўрад выдзеліў 200 мільёнаў нямецкіх марак для фінансавай дапамогі ахвярам нацызму. Беларускі ўрад адносіць да гэтай катэгорыі вязняў фашысцкіх канцлагераў, турмаў і гета, грамадзян, якія былі сілком вывезеныя ў Германію на працу. Па меры складання спісаў (гэтым займаецца беларускі фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне») дойчэмаркі паступаюць з нямецкага банка ў «Прыёрбанк». Пасля таго, як пайшлі чуткі пра магчымы арышт валютных рахункаў, ахвяры нацызму пачалі масава здымаць сваю фінансавую дапамогу з рахунка «Прыёрбанка».

З 1 ліпеня фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне» спыняе прыём дакументаў, і астатняя сума дойчэмарак (каля 100 мільёнаў DM) будзе падзеленая прыкладна на 100 тысяч ахвяраў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Беларуская Энцыклапедыя: погляд з Еўропы

**Канфліктная сітуацыя, якая ўзнікла ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» з прызначэннем на пасаду галоўнага рэдактара Генадзя Пашкова, атрымала міжнародны рэзананс.**

Удзельнікі міжнароднай канферэнцыі гісторыкаў, што адбылася ў Штутгарце (Германія), аднагалосна прынялі спецыяльную рэзалюцыю, адрасаваную прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі Л.Сушчэню (копія — прэзідэнту А.Лукашэнку). Навукоўцы-гісторыкі выказваюць *«сур'ёзную занепакоенасць з прычыны абмежавання свабоды навуковых даследаванняў у Беларусі. Прыпыненне друку чарговага тома Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, а таксама кадравыя змены ў кіраўніцтве выдавецтва адбываюцца на фоне кампаніі ўціску незалежных сродкаў масавай інфармацыі і запалохвання апазіцыйных сілаў... Такая палітыка яшчэ больш пагаршае і без таго цяжкі, драматычны стан беларускай гістарычнай навукі»*.

Вучоныя звяртаюцца да Л.Сушчэні з просьбай *«выкарыстаць усю ўладу, аўтарытэт і ўплыў для таго, каб спыніць гэтыя негатыўныя працэсы, якія падрываюць добрае імя Беларусі ў свеце»*.

**М.Н.**

## Пазьняк здзіўляецца

**Як паведамляюць польскія СМІ, Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык наладзілі ў Варшаве прэс-канферэнцыю сумесна з кіраўніцтвам партыі «Паразуменне Цэнтрум».**

Старшыня партыі Яраслаў Качыньскі выступіў з ініцыятывай стварэння польскай міжпартыйнай дэлегацыі для вывучэння становішча з правамі чалавека ў Беларусі.

Адказваючы на пытанне, ці збіраецца Зянон Пазьняк вярнуцца ў Беларусь, лідэр БНФ сказаў, што вельмі здзіўлены загадам беларускіх уладаў затрымаць яго і Навумчыка на памежных пастах. «Яшчэ большае здзіўленне выклікае адсутнасць якой-небудзь рэакцыі з боку беларускіх дэмакратаў, — заявіў Пазьняк. — Калі б два гады назад такое зрабілі ў дачыненні да Карпенкі ці Дабравольскага, то раніцай наступнага дня ў парламенце дэпутаты апазіцыі БНФ ад усіх мікрафонаў запатрабавалі б тлумачэнняў».

У пятніцу 31 траўня С.Навумчык перадаў кіраўніку Варшаўскага бюро АБСЕ спадарыні Аўдры Гловер інфармацыю аб дзеяннях беларускіх уладаў падчас разгону маладзёжнага мітынгу ў Мінску 30 траўня. У прадстаўніцтве паведамілі, што ў Штаб-кватэры АБСЕ ў Вене сур'ёзна вывучаюць становішча дэмакратыі ў Беларусі і маюць намер накіраваць на суд над Ю.Хадыкам і В.Сіўчыкам міжнародных назіральнікаў.

**Б.П.**

# Дасягненні ў эфіры

**Днямі ў Гродне адбылася сустрэча кіраўнікоў польскага і беларускага радыё.**

З польскага боку былі кіраўнік дзяржрады па справах радыё і тэлебачання Р.Ярасіньскі, старшыня аб'яднання грамадскага радыёвяшчання П.Фрыдрышка і кіраўнікі 17 рэгіянальных радыёцэнтраў. Ад гаспадароў былі абласныя начальнікі тэлерадыёкамітэтаў і сталічнае начальства — тры намеснікі сп.Кісяля: Дудко, Ядранцаў і Купрыенка.

Для пачатку гасцей прымусілі праслухаць нудны даклад у духу застойных часоў аб дасягненнях калгасаў і аб некаторых праблемах, накшталт «спаду ў мукамольна-крупяной прамысловасці». Першы намеснік старшыні Белтэлерадыёкамітэта В.Дудко прамовіў бліжэй да тэмы. Ён паскардзіўся, што без СССР стала цяжкавата з падрыхтоўкай кадраў і цяпер сярэдні ўзрост супрацоўнікаў сталічнага тэлебачання — 53 гады. На пытанне аб залежнасці радыё і тэлебачання ад уладаў ён адказаў шчыра. Маўляў, іх задавальняе залежнасць ад дзяржавы, якая дае ім грошы. Больш за тое, ім хацелася б яшчэ мацней фінансава залежаць ад урада, які пакуль субсідуе іх усяго на 75 працэнтаў.

Палякі пацікавіліся, ці мае магчымасць З.Пазьняк выступіць на беларускім тэлебачанні — так, як на польскім. В.Дудко адказаў: «Наша тэлебачанне праводзіць дзяржаўную палітыку». А што гэта за палітыка, маўляў, ні для каго не сакрэт.

Калі ў нас тэлебачанне і радыё заняты абслугоўваннем першай асобы дзяржавы, дык у палякаў усё інакш. Раду, якая кіруе электроннымі *mass media*, стварыў парламент. З 9 яе членаў 3 зацвярджае Сейм, 3 — Сенат і яшчэ 3 — прэзідэнт. Карацей, кожны мае свой уплыў, але не валодае манаполіяй. Рада абіраецца на 6 гадоў. Адклікаць яе членаў можа толькі Канстытуцыйны суд і ні ў якім разе прэзідэнт. Фінансава тэлебачанне не залежыць ад уладаў, а толькі ад гледачоў, якія аплочваюць абанемент за тое, што глядзяць праграмы, і ад рэкламы. У выніку гэтага ТБ ператварылася з дзяржаўнага ў грамадскае. Радыё ў Польшчы таксама з'яўляецца грамадскім.

Беларускі прыклад сведчыць: усё, што залежыць ад дзяржавы, асабліва савецкай, усё гэта — неэфектыўна, згубна. У Гродзенскім абласным тэлерадыёкамітэце па штату 87 журналістаў (20 сёння, праўда, не хапае) да плюс яшчэ 70 тэхнічных супрацоўнікаў. У сярэднім яны маюць у суткі адну гадзіну тэлепраграм і сорак хвілін радыёэфіру. На Беластоцкім радыё працуе 100 чалавек, з якіх 44 журналісты. Вяшчае гэтая радыёстанцыя 24 гадзіны штодня! А тэлевізійная студыя ў Беластоку толькі ствараецца, будзе выходзіць у эфір і беларуская праграма — так, як у Гродне — польская, якая існуе ўжо некалькі гадоў. Палякі ўвогуле гатовыя дапамагаць гродзенцам. Існуе праект аб стварэнні ў Гродне супольнай польска-беларускай радыёпраграмы. Палякі гатовыя нават даць адпаведную тэхніку. Ажыццяўленне праекта, аднак, тармозіцца ў Мінску, якому не патрэбны ў эфіры свабодныя галасы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

***ПАРАЛЛЕЛИ***

# Фриц СТЕРН. Потерянная родина?

Невозможно забыть слезы моего отца, когда мы в 1938 году покидали Бреслау. Но я, двенадцатилетний мальчик, был страшно взволнован возможностью убежать от царившей тогда нищеты. Ныне, когда я задал себе вопрос, что же для меня означает слово «родина», ответ удивил меня самого — «бездомность». Есть много способов утратить дом. Это может быть, как в моем случае, лишение возможности жить в своей стране. В нашем столетии изгнание стало уделом миллионов.

Изгнание и потеря; изгнание и стремление; изгнание и ссылка: замурованные тираническими правилами, эти воспоминания внезапно вырвались, освобожденные революциями 1989 и 1991 годов. От Центральной Европы до Центральной Азии долго сдерживавшиеся желания и возмущение проложили глубокие борозды на лице современного мира. Это не только боль от потери дома, языка и средств к существованию. На более глубоком уровне это горечь человеческих и духовных потерь. Это печать нашей принадлежности к дому; это как воздух, которым мы дышим, — мы вспоминаем о нем только тогда, когда его не хватает или он отравлен.

Многие живут только в своем исчезнувшем прошлом; их мысли поглощены мучительными воспоминаниями о вчерашнем дне. Можно надеяться, что с течением лет подобные чувства постепенно исчезнут, но мы также знаем, что такие эмоции часто используются для того, чтобы раздуть затухающие угли политического оппортунизма. Всегда может посеять раздор тот, кто хочет получить преимущество, вороша старые обиды. Это отравляет память ядом прошлого и усложняет жизнь в настоящем. Но родина — это не ностальгия с элементами китча. Дом — это частная собственность. Для того чтобы отдавать этому должное, требуется осознание, а также боль, которая приходит вместе с таким осознанием.

Вацлав Гавел прекрасно описал это стремление жить «правдиво». Сегодняшняя правда состоит в том, что мы должны учиться жить с новым пониманием. Этому способствует разрушение прежних табу и возникновение конфронтации с собственным сложным прошлым. Польский интеллектуал и министр иностранных дел Владислав Бартошевский включил эту мысль в свое выступление в немецком Бундестаге: «Когда сейчас стало возможным говорить о судьбе беженцев из Вильно и Львова, стало легче увидеть размеры человеческой драмы беженцев из Бреслау и Штетина... Мы оплакиваем индивидуальные судьбы и сочувствуем страданиям простых немцев, потерявших свою родину в связи с войной и ее последствиями». Когда закипает негодование из-за потери родины, лекарством здесь может служить только справедливая оценка неправильных действий, поскольку боль от потери родины испытывает не только ваш народ, но и другие люди. (Сегодняшние ожесточенные дипломатические дебаты между Германией и Чешской Республикой по поводу нацистской оккупации во время войны и последовавшего за этим изгнания в 1945 году 3 мил. судетских немцев могут символически показать ту цену, которая все еще платится за отречение от истории.)

Понимать — значит находить пути к примирению. Внутреннее исцеление, переключающее память с прошлого на настоящее, также необходимо. Вы теряете свою родину навсегда только тогда, когда вы фальсифицируете ее историю.

Немцы пять десятилетий прожили «не по лжи», осознавая, что их отцы и матери делали от имени всех немцев. В своей запоминающейся речи в Бундестаге, произнесенной в связи с пятидесятой годовщиной окончания гитлеровской войны, Рита Сассмут сказала, что суровая правда «не должна упоминаться снова и снова, если о ней снова и снова не спрашивают». Однако для народов Восточной Европы эта правда была недоступна. Молчание являлось правилом. Хотелось бы, чтобы поиск правды стал бы сегодня правилом.

Однако примирения нельзя достичь по мановению руки. Оно предполагает ежедневную работу, и нелепо отказываться или недооценивать силу давно существующей ненависти, захлестнувшей страны, освобождающиеся от тиранического управления. Таким образом, принятие должно быть повенчано с примирением. В противном случае ни один индивидуум, будь то народ или страна, не обретет свое лицо и не признает своих ошибок. Гораздо легче растравлять собственные раны. Примирение не в состоянии исцелить все раны и не может удовлетворительно разрешить юридические проблемы. Это не вид духовного возрождения. Марион Донхофф, возможно, выразилась лучше всего: «Возможно, это наивысшая степень любви — любовь без обладания».

В 1979 году я вернулся в Бреслау — город, где я родился, чтобы навестить дом моей бабушки. Тогдашним хозяином — мы могли объясняться только по-французски — был офицер польской кавалерии. Он провел меня в гостиную, полную фотографий детей, с которыми он вместе находился в Освенциме. Старый офицер показал мне лагерную татуировку и рассказал о пяти годах, проведенных в лагерях смерти Биркенау, Освенциме и Бухенвальд. На столе стоял деревянный бюст отца Кольбе, польского священника, который незадолго до нашей встречи стал папой Иоанном Павлом II. Отец Кольбе претерпел в лагерях то, от чего бежала моя семья. Мы со старым офицером пожали друг другу руки, и я почувствовал захлестывающие меня эмоции: есть в мире вещи, показывающие все в истинном свете.

Дружелюбие становится для нас, усыновленных другими странами, территорией личного приятия и примирения с историей, о которой, как нам кажется, слишком больно слышать. Если мы откроемся навстречу таким чувствам, это станет настоящим. Сегодня такая позиция необходима для всех, кто чувствует себя бездомным, оторванными от родины, которую они потеряли.

***Фриц Стерн, известный немецкий историк, профессор и бывший ректор Колумбийского университета.***

*©Project Syndicate*

